ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 4 (151) 26 студзеня - 1 лютага 1996 г. Кошт 800 рублёў

ГАЙДУКЕВІЧ РАПАРТУЕ ЖЫРЫНОЎСКАМУ - ст. 2.

ФУРУНКУЛ ПЛАНАВАЙ ЭКАНОМІКІ - ст. 3.

ЛЯТАЙЦЕ САМАЛЁТАМІ АЭРАФЛОТА! - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## АД КАГО ХАВАЕМСЯ?

Сёньня ў аблвыканкаме праходзіць сустрэча прадстаўнікоў прэзідэнцкай вертыкалі вобласьці з дырэктарамі дзяржаўных прадпрыемстваў. Тэма нарады - падвядзеньне вынікаў працы прамысловасьці ў 1995-м годзе і перспектывы жыцьця дзяржпрадпрыемстваў у рынкавых умовах.

Доступ незалежных сродкаў масавай інфармацыі на сустрэчу быў забаронены.

**В.МАЛЬСКІ.**

## ЖЫВЕМ У ПАЗЫКУ

50 мільёнаў рублёў дасягнула сума запазычанасьці жыхароў інтарнату Аблсельбуду па вуліцы Сухамбаева за жыльлё і камунальныя паслугі. У многіх людзей сума пазыкі перавышае суму месячнай заробнай платы. Ня лепшая сітуацыя ў большасьці іншых працоўных інтарнатаў гораду.

Прычына, відавочная - «запушчаная» эканоміка.

**В.ДРЭМА .**

## ХТО ДБАЕ, ТОЙ МАЕ!

**Актыўную зьнешнеэканамічную дзейнасьць разгарнуў апошнім часам завод карданных валоў. У самы бліжэйшы час будуць падпісаныя дагаворы на пастаўку прадукцыі прадпрыемства з такімі вядомымі аўтазаводамі, як ГАЗ (Расея) і РАФ (Латвія).**

На гэтых прадпрыемствах пасьпяхова прайшлі трохмесячнае выпрабаваньне гарадзенскія карданы, якія па якасьці пераўзыходзяць аналагічную прадукцыю іншых прадпрыемстваў СНД ды і каштуюць таньней. Па гэтых жа прычынах гарадзенскія карданы зьявіліся на аўтобусах Паўлаўскага аўтазавода, які раней карыстаўся карданамі выробленымі ў Чарнігаве.

Адначасова на заводзе і выпуск малалітражнага аўтамабіля «Ака». Нядаўна прадстаўнікі прадпрыемства вярнуліся з Набярэжных Чалноў, дзе заключылі дамову з КамАЗам аб пастаўцы ў Горадню неабходных камплектуючых. Цікавасьць да «Акі» праяўляюць і беларускія прадпрыемствы. Так, Жлобінскі оптыка-рамонтны завод гатовы пастаўляць бензабакі, глушыльнікі, гамельчане - шкло і г.д.

У бягучым годзе на заводзе плануецца выпусьціць каля 500 аўтамабіляў.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

## КАНЕЦ - ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

**23 студзеня адбылася Пашыраная Рада Гродзенскага ўніверсітэту імя Янкі Купалы, дзе абмяркоўвалі вынікі працы камісіі, якая правярала ўніверсітэт у сувязі з шматлікімі скаргамі групы прафесараў (гл. «Пагоню» N 2,3). На ёй прысутнічалі прадстаўнікі гарадзкіх і абласных уладаў, а таксама міністр адукацыі Васіль Стражаў.**

Адзначыўшы станоўча дзейнасьць рэктарату, Рада адзінагалосна вырашыла «лічыць неканструктыўным і ў асноўным неаб'ектыўным падыход Б.А.Барыхіна» у справе крытыкі кіраўніцтва ўніверсітэту.

Аднак, відавочна, што нават гэтае рашэньне ня спыніць ініцыятара шматлікіх скаргаў і заяваў. Ваінствуючы прафесар у сваім доўгім выступе на Радзе ўспомніў пра «якобинский террор», неаднаразова падкрэсліў «правильность именно моей позиции». Адзін з нешматлікіх ягоных паплечнікаў прафесар С.Мінюк адмовіўся прыняць удзел у галасаваньні.

**Ул.інф.**

## «НЁМАН» - АКНО Ў ЭЎРОПУ

Рабочая сустрэча кіраўніцтва Гарадзенскай вобласьці і Сувалкаўскага ваяводзтва адбылася ў польскім горадзе Сувалкі.

Яна праходзіла ў рамках праграмы прыгранічнага супрацоўніцтва "Эўрарэгіён Нёман", да якой маюць намер далучыцца калінінградзкая вобласьць Расеі і Літоўская Рэспубліка.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

## "ЦЕНЫ ПОВЫШАЕМ В ПЕРВЫЙ И ПОСЛЕДНИЙ РАЗ..."

Мажліва, у самы бліжэйшы час, яшчэ больш падаражэе мука ў гарадзенскіх крамах. Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні», падрыхтаванае распараджэньне, пад якім павінен паставіць свой подпіс старшыня аблвыканкаму. Мяркуецца, што кошт мукі ўзрасьце на 10-14 працэнтаў.

**Р.ПЯТРОЎСКІ.**

## ДАЦКІ СЬЦЯГ НАД СЛОНІМАМ

На гэтым тыдні ў Слоніме знаходзілася група замежных ваенных інсьпектараў. Госьці знаёміліся з аб'ектамі адзінаццатай механізаванай брыгады 28-га армейскага корпуса.

Група ваенных інсьпектараў працавала пад флагам Каралеўства Данія. У складзе группы былі таксама вайскоўцы з Нідэрландаў, Вялікабрытаніі, ЗША.

Інсьпекцыя праходзіла ў рамках дагавора аб звычайных узброеных сілах у Эўропе.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**




Заўтра ў гарадзенскім драматычным тэатры пройдзе канцэрт тэлефестываля-конкурсу рэспубліканскага конкурсу маладых выканаўцаў «Зорныя ростані». Удзел у ім прымуць маладыя таленты з Горадні і Гомеля. На наступны дзень адбудзецца вялікі галаканцэрт, у якім выступяць Эдуард Ханок, Ігар Лучанок, Ірына Афанасьева і іншыя зоркі беларускай эстрады.

Уваход на конкурс і канцэрт - па запрашальных білетах.

**В.М.**

## ПАМЯЦЬ ЖЫВЕ

Учора ў гарадзенскім універсітэце пачаліся традыцыйныя міжнародныя чытаньні, прысьвечаныя жыцьцю і дзейнасьці славутага беларускага навукоўца, нашага земляка Яўхіма Карскага. Удзел у іх прымаюць навукоўцы з Беларусі, Летувы, Украіны, Польшчы і Расеі.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

## СТРАТА ІЛЮЗІЯЎ

**Эйфарыя, што мела месца пасьля сенсацыйнай перамогі валейбалістаў «Камуналініка» у Кубку кубкаў над галандцамі адыходзіць. Нашай камандзе, ня гледзячы на наяўнасьць здольных і адораных гульцоў, элементарна бракуе класу. Што і пацьвердзіла сустрэча 3 туру прэстыжнага турніру са славенскім «Марыборам».**

Лёгка ўзяўшы першы сет (15:7), гарадзенцы гэтак жа «ўпэўнена» «зьлілі воду» у другім - 4:15. Зыход гульні вырашыўся фактычна ў трэцяй партыі - адразу камунальнікі «пасыпаліся»: 2:10 і ўрэшце 9:15. Толькі Пазьняк і Астаф'еў абвастралі гульню, але іх высілкаў было не дастаткова. У выніку - агульна 1:3 на карысьць гасьцей.

Цяпер «Камунальнік» чакае выезд на прарадзіму хрысьціянства і сустрэча з тамтэйшым «Хапаэлем».

**ХЕЛЬМУТ КАМЕНСКІ.**

## ЧОРНАЯ СПАДЧЫНА ЧАРНОБЫЛЯ.

**Першага студзеня скончылася перарэгістрацыя ліквідатараў наступстваў Чарнобыля.**

Як паведаміў нам загадчык аддзела аблвыканкаму, па пытаньнях ліквідацыі аварыі на ЧАЭС сп.Андрыеўскі, на на тэрыторыі вобласьці жыве каля 6 тысячаў людзей, якія бралі ўдзел ліквідацыі наступстваў Чарнобыля. Аднак у аддзеле перарэгістраваліся толькі 230 чалавек, бо перарэгістрацыю самастойна праводзілі многія міністэрствы і ведамствы. Да таго ж, некаторыя «ліквідатары» пасьля сумнавядомага антыільготнага ўказу прэзідэнта па-просту ня сталі перарэгістроўвацца, бо пазбавіліся, дзякуючы Лукашэнку, амаль усіх ільгот, у тым ліку - на праезд, на 50-працэнтную скідку пры аплаце камунальных паслугаў і г.д. Нягледзячы на рашэньне Канстытуцыйнага суда, які прызнаў указ незаконным, улады ўсё ж «неукоснительно» выконваюць волю прэзідэнта. Таму лічба ўдзельнікаў аварыі ў вобласьці, як і ў цэлым па рэспубліцы, зьменшыцца. З'эканомленныя ж на людзкім здароўі грошы пойдуць, напэўна, на латаньне порткаў будаўнікоў рынкавага сацыялізму.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ГУЛЬНЯ Ў СЬЛЕДАПЫТАЎ

**Нейкі літовец без усякай візы лясною сьцежкай прагуляўся ў Бершты Шчучынскага раёну, дзе набыў каня. Гэта ён так гаворыць, а на самой справе конь аказаўся скрадзены з дапаможнай гаспадаркі аднаго з гарадзенскіх прадпрыемстваў? Зрэшты, гэта ня так важна, адным крыміналам больш, ці менш. Цікавыя рэчы пачаліся пасься, калі ў дапаможнай гаспадарцы заўважылі прапажу. Сам дырэктар гаспадаркі, аграном ды іншыя адказныя асобы па сьвежых сьлядах (балазе, на пясчанай сьцежцы сьляды чалавека і каня добра бачныя) распачалі пагоню. Сьляды давялі да дзяржаўнай мяжы, дзе сьцежка была перакапаная - так у нас мяжа пазначана.**

Ня доўга думаючы, дырэктар з таварышамі перабраліся праз канаву на тэрыторыю сумежнай суверэннай дзяржавы і працягвалі пагоню.Дагналі літоўца і свайго каня, заглыбіўшыся ў Літву кіламетраў на 20! Пасадзілі яго ў сваю машыну (адзін са сьледапытаў пагнаў каня дамоў пешшу) і павезлі ў Бершты, дзе здалі Шчучынскай міліцыі.

Супрацьаматара верхавой язды была ўзбуджана крымінальная справа, прычым па двух артыкулах: за крадзёж каня і за незаконны пераход дзяржмяжы. Адвакат літоўца (дарэчы, наш беларускі) патрабаваў неадкладна адпусьціць свайго падапечнага, бо яго затрыманьне адбылося на тэрыторыі Літвы, куды дырэктар дапаможнай гаспадаркі са сваімі людзьмі пранік абсалютна незаконна, ня маючы ніякіх паўнамоцтваў затрымліваць літоўскага грамадзяніна і дастаўляць яго ў Беларусь, але гэтыя довады адваката не былі прыняты да ўвагі...

Тады чаму, скажыце, у камеры сьледчага ізалятара апынуўся толькі канакрад, а дырэктар са сваёй «групай захопу» застаўся на волі? Берштаўскія сьледапыты таксама незаконна перасеклі дзяржмяжу!

Мэты ў іх былі, вядома, высокародныя. Але нельга змагацца з беззаконьнем, выкарыстоўваючы іншае беззаканьне.

Гэта падумаць толькі, якія прэцэдэнты ствараем! Спачатку адныя будуць ладзіць аблавы на чужой зямлі, потым гэтыя арганізуюць рэйд па вызваленьню сваіх! Так у гарадзенскай пушчы можна арганізаваць сапраўдную Чачню.

**Д.ЛАЎРЫНОВІЧ.**

## ІШОЎ ЗВЫЧАЙНЫ ГАНДАЛЬ

**У Вярхоўным Савеце партфелі падзялілі. Пасады раздаваліся згодна колькасьці членаў той ці іншай фракцыі. Вось і атрымалася, што «Грамадзянскае дзеяньне» атрымала толькі адзін партфель — кіраўніком камісіі па эканамічнай рэформе стаў Васіль Шлындзікаў, а сацыял-дэмакраты два — камісію па міжнародных справах узначаліў Пятро Краучанка, а камісію па бюджэту, падатках, банках і фінансах — Уладзімір Башарымаў. Астатнія партфелі падзялілі камуністы, аграры, і прадстаўнікі прапрэзідэнцкай фракцыі беспартыйных «Згода».**

Але важна ня толькі тое, якіх палітычных поглядаў прытрымліваецца кіраўнік. Важна, каб ён быў высококваліфікаваным, каб быў аўтарытэтнай асобай. Успомнім мінулы Вярхоўны Савет. Тады камісіі ўзначалілі камуністы Смоляр і Гаркун, народнафронтавец Садоўскі, паэт Гілевіч, навукоўцы Савіцкі і Сасноў, міліцэйскі генерал Грыб, прамыслоўцы Карпенка і Козік... Яны ўжо былі асобамі, маглі думаць па дзяржаўнаму, маглі сваім аўтарытэтам павесьці за сабой калег. А хто зьяўляецца асобай сярод цяперашніх старшынь? Хіба толькі Краўчанка, Шлындзікаў, можна аднесьці да іх Ліўшыца, Савічава... Вось і ўсё.

Напрыклад, на пасаду старшыні камісіі па адукацыі, навуцы і культуры выбраны прарэктар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэту Плецюхоў, які ня ўмее размаўляць па-беларуску? Як тут ня ўспомніць Гілевіча... Цяжка параўноўваць Хоміча, абранага на старшыню чарнобыльскай камісіі, і Худую, якая ўзначаліла ў парламанце экалогію, са Смолярамі і Савіцкім... Без партфеляў засталіся вядомыя дэпутаты мінулага скліканьня, вядомыя новыя палітыкі. Але дзялілі пасады не па прафесійных адзнаках. Дзялілі па прыналежнасьці да фракцый.

Ішоў звычайны гандаль. Напрыклад, фракцыя камуністаў забрала сабе камісію па правах чалавека, нацыянальных пытаньнях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадзкасьцю і рэлігійнымі арганізацыямі. І камуністы вырашылі, што яе павінен узначаліць сумнавядомы сацыёлаг Ігар Катляроў. Леанід Юнчык, намеснік галоўнага рэдактара газеты «Рэспубліка», з жалем заўважыў, што дэпутатам, якія не ўвайшлі ў фракцыі, прыходзіцца толькі назіраць за такой дзяльбой. Ён прапанаваў выбраць не Катлярова, а Мячэслава Грыба. Кандыдатура Грыба магла пераважыць, і ў перапынку камуністы зрабілі ўсё, каб Грыб узяў самаадвод. Лідар фракцыі Сяргей Калякін падыйшоў да Пятра Краўчанкі і перагаварыў з ім. А пасьля на паседжаньні Краўчанка стаў расхвальваць Катлярова. Ці не таму, што ў яго падтрымку выступіў камуніст Камай?

Адзін дэмакрат карэспандэнту «Пагоні» заўважыў, што калі не прагаласаваць за Катлярова, то камуністы «заваляць» потым кандыдатуру Шлындзікава. А прадстаўнік сацыял-дэмакратаў адкрыта сказаў, што ўсе партфелі нават у камісіях ужо падзелены, і калі Катлярова ня выбраць, то дамоўленасць прападзе, і пасады будуць перагледжвацца, а каму гэта патрэбна?

У перапынку камуніст Шчукін папракнуў Леаніда Юнчыка за тое, што ён вылучыў Грыба, мауляў, толькі час губляецца. «Дэмакратыя», — адказаў Юнчык. «Дэмакратыя, — зазначыў камуніст, — гэта яшчэ і падпарадкаваньне

**( Заканчэньне на ст. 2)**

# ФУРУНКУЛ ПЛАНАВАЙ ЭКАНОМІКІ

**На гэтай кропцы эканомікі ламаюцца ўсе. Яна падтачыла карэньні дубовага дрэва СССР. На ёй пасьлізнуўся ў перадвыбарчай гонцы за прэзідэнцтва В.КЕБІЧ. Ад яе хапаючых за галаву боляў ня можа знайсьці лекаў А.ЛУКАШЭНКА. Нават калі сёньня да ўлады прыйдзе Ісус Іосіфавіч Хрыстос, то і ён, перад тым, як вылечыць наш параліч, добра б памучыўся.**

Для ілюстрацыі возьмем гарадзенскія прамысловыя прадпрыемствы (форма ўласнасьці ня мае значэньня). Усе яны, нават, піўзавод, пакутуюць ад адной хваробы, імя якой - збыт. Здавалася б, робім нядрэнную прадукцыю! Гарадзенскія васьміканальныя радыёпрыёмнікі, дапрыкладу, па якасьці пераўзыходзяць замежныя аналагі. А тканіны? А такарныя патроны? А запчасткі да аўтамабіляў? А карданныя валы, корд «Хімвалакна»?

Чаму ж тады праблемы са збытам? Чаму стаім, скарачаемся, гінем?

Выдаткі - вось прычыны, меланома нашай вытворчасьці. Менавіта з-за іх нашая прадукцыя сёньня «нязбытачная».

Пра гэта ведае кожны, хто хоць крыху разьбіраецца ў эканоміцы. Усім вядома: пры зьніжэньні выдаткаў зьмяншаецца кошт тавару, што робіць яго больш даступным для пакупніка.

Дык чаму ж тады мы ня можам пазбыцца гэтага праклёну? Розуму мала? Зноў жа не.

Прааналізаваўшы ўсю гаму пытаньняў выдаткаў, збыту, можна ўявіць будучае нашай краіны. Яно, мякка кажучы, несуцяшальнае. Не Нагорны Карабах, не Абхазія павінны турбаваць ААН ды сусветную супольнасьць,а менавіта Беларусь - зборачны цэх былога Савецкага Саюзу.

Менавіта тут магчымы тэктанічны разлом уся і ўсяго. Калі б можна было штосьці выправіць аўтарытарызмам, сацыялізмам, дыктатурай, Калігулай ці Навухаданосарам, то аўтар гэтах радкоў пакланіўся б усім гэтым ідалам у ногі, прагаласаваў бы з сьлязьмі замілаваньня на любым рэферэндуме. Таму што надыходзячая бяда жахлівей, чым мана сабе ўявіць. Тут зародак Апакаліпсісу. Тут, у цэнтры Эўропы.

Зраблю невялікае адступленьне. 1964 год. Жодзіна. БелАЗ. Я -пятнаццацігадовы лекальшчык - ад тэхнолага Дзядкоўскага ўпершыню чую дзіўнае меркаваньне: «Разумееш, наш завод - дзіця непаўнавартаснае. Руда - далёка, гума - таксама, рухавікі, кузава - невядома адкуль. Мы - толькі зборка ды абкатка. Выраб БелАЗаў - страшна стратны. Прадаюць іх па заніжаных коштах. Ты свой заробак атрымоўваеш не таму, што рамантуеш штангелі, а таму, што дзесьці нехта за гэта плаціць з сваёй кішэні. Калгасьнік, напрыклад. Эканоміка - кабета бязьлітасная, а завод наш пабудаваны без эканамічнага разьліку, ад «балды». Будзе бяда!».

І бяда на падыходзе. Паўтара года назад, едучы па шашы Менск-Масква ля БелАЗа я з жахам спыніўся і ўпершыню ўспомніў словы тэхнолага. Аграмадная тэрыторыя завода была забітая цяжкагрузнымі самазваламі. Новыя, прыгожыя, радуючыя вока родныя машыны майго юнацтва нагадвалі сюррэалістычны помнік эканамічнай параноі. А за заводам - вялікі горад, тысячы людзей, шырокія вуліцы, крамы, шпіталі, паравое ацяпленьне. Усё тое, што называецца інфраструктурай. Што будзе з ёй, калі на заводзе ня знойдуць выйсьце? Каша з чалавечых запатрабаваньняў, звычак і ўкладаў - ужо на вогнішчы...

У іншых гігантаў справы ня лепшыя. Іх таксама ляпілі без калькулятара, кіруючыся выключна «із волі сваёй». Возьмем, дапрыкладу, гісторыю стварэньня аб'екта N 459, на даваенных падмурках якога пабудаваны менскі трактарны завод. Абгрунтаваньне яго будаўніцтва было такім.

П.Панамарэнка - І.Сталіну: «Ёсьць адно пытаньне,якое я зьбіраўся дакласьці Вам і спытаць Вашай парады, таварыш Сталін. Яно датычыцца таго, якім будзе агульны зьнешні выгляд Беларусі ў будучым, якімі стануць нашыя гарады, сталіца рэспублікі. Да вайны Менск быў горадам паветавага тыпу, у ім адсутнічалі буйныя прамысловыя прадпрыемствы. Зараз ён разбураны ўшчэнт. Адбудоўваць яго такім, як быў? Ці іншым? Любыя працы будуць нерэальнымі, калі ў Менску і каля яго не пабудаваць некалькі прадпрыемстваў буйной прамысловасьці. Яны пацягнуць за сабой усё - і жыльлё, і добраўпарадкаваньне. Вялікія намаганьні будуць мець вялікую мэту. Вы ведаеце, што да вайны па Вашаму загаду мы пачалі будаваць пад Менскам авіяцыйны завод N459...».

Вось і ўсё абгрунтаваньне. Законы эканомікі? Конь не валяўся. Хоць намеры Пятра Кандратавіча былі самыя найлепшыя, цалкам рэальна ... у выпадку перамогі сусьветнай рэвалюцыі.

А вынік? Якое новае разбурэньне будзе пагражаць Менску ды іншым гарадам краіны тады, калі пабудаваныя «ад балды» прадпрыемствы стануць прыстанішчам пацукоў?

Беларусь у бязвыхадным становішчы. Сотні геніяў мала, каб вывесьці яе з комы.

Спыненьне вытворчасьці абавязкова прывядзе да разбурэньня самага галоўнага ў жыцьці людзей - гарадзкой інфраструктуры. Любое прыпыненьне падачы цяпла, газа, электраэнергіі зімой выведзе людзей на вуліцы. А людзі на вуліцах - гэта амаль грамадзянская вайна, зьвязданые асабістых рахункаў і г.д.

«Зборачны цэх СССР» - гэта аграмадны фурункул на целе Эўропы. Ад яго можа пачацца агульнае заражэньне крыві.

Асабіста я са спачуваньнем гляджу па тэлебачаньні на нічога не падазраючых, бясклапотных галандцаў, немцаў, шведаў ды іншых нарманаў ды англасаксаў, зьдзекліва ўсьміхаюся ў адрас партнаменклатуршчыкаў, якія вывозяць свае капіталы і сем'і за мяжу. Нікуды яны не ўцякуць, калі тут рване!!! І з глыбокай удзячнасьцю стаўлюся да Сораса ды іншых сумленных і разумных людзей, якія ўсё разумеюць і стараюцца, чым могуць, дапамагчы...

Дык дзе ж выйсьце? Зносіць бульдозерамі аграмадныя прадпрыемствы? Шкада людзкой працы. У моцнай руцэ? Але каб ускрыць ды вычысьціць бруд, «цьвёрдая рука» не падыходзіць. Тут патрэбная рука мяккая, гнуткая, таленавітая. У чарговай крывавай і бессэнсоўнай рэвалюцыі? Дык для гэтага розуму ня трэба, толькі сывісьні. Ідыётаў, народжаных алкаголікамі, хапае...

**Алег МАЛАШЭНКА.**

## АБЯЦАНАЯ ШАПКА ВУШЭЙ НЯ ГРЭЕ

**Кожны цяпер ня толькі бачыць, але й адчувае на ўласнай скуры, што за паўтара года праўленьня «бацькі» ніякіх зрухаў да лепшага ня бачна, нават няма стабілізацыі. Было кепска, стала яшчэ горш.**

Няхай шаноўны Аляксандр Рыгоравіч раслумачыць, як жыць пенсіянеру, які атрымлівае менш за 300 тысяч. Трэба ж сілкавацца, за балон звадкаванага газу трэба заплаціць 45 тысяч (было 30), купіць паліва, каб не замерзнуць. Тысячы людзей жывуць ва ўласных дамах з пячным ацяпленьнем. Яны штогод куплялі брыкет і дровы ў «Гортопе». Цяпер адна тона брыкету каштуе 200 тысяч, адзін кубаметр дроваў - 50 тысяч. За дзьве з паловай тоны (па норме) брыкету трэба заплаціць 500 тысяч, за два куба дроваў - 100. Як бачым, ужо 600. А яшчэ дастаўка. Дзе ўзяць такія грошы пенсіянеру?

Хто дапаможа? Зьвяртаемся ў аддзел сацыяльнага забесьпячэньня Ленінскага райвыканкаму. Здаецца, тут абавязаны дапамагчы чалавеку. Спадарыня Серада, намесьнік загадчыка аддзелу, адказвае коратка і ясна, што ў гэтай справе дапамагчы яны ня могуць. Калі малая пенсія, то, можа, у лютым дадуць дапамогу (на паўтоны брыкету!). Але ў горадзе засталіся рэшткі брыкету па 200 тысяч. Хутка за адну тону прыдзецца плаціць 360 тысяч рублёў. Падлічыце: за дзьве з паловай тоны бяз кошту перавозкі трэба будзе заплаціць ужо 900 тысяч! Хочаце - купляйце, ня можаце - замярзайце!

- Зрабіць так, каб пенсіянер плаціў па частках, каб у растэрміноўку вылічвалі за паліва з пенсіі - гэта ня наша справа, мы гэтымі пытаньнямі не займаемся, - адрэзала намесьнік загадчыка.

Атрымліваецца, ратунак замярзаючых - справа саміх замярзаючых. А яшчэ спадарыня Серада папулярна растлумачыла, што яны да вертыкалі не адносяцца, і, наогул, грошай не хапае, і хутка не атрымаеце нават на труну.

Аднак жа, абласное ўпраўленьне сувязі здолела па загаду прэзідэнта вырашыць пытаньне аб забесьпячэньні пенсіянераў вобласьці прыёмнікамі (коштам 300 тысяч) з аплатай у растэрміноўку да двух гадоў. Прэзідэнт дбае пра духоўны стан грамадзтва!

А ў гэты час людзі мерзнуць, бо няма за што купіць паліва. Ці сагрэе іх голас «бацькі» з «простага і недарагога» прыёмніка?

Ва ўсякім разе, ужо адна абяцанка, што ўсе перазімуюць у цяпле, ня спраўдзілася.

**Людвік САРОКА.**

## КРОК НАПЕРАД! ЦІ ДВА НАЗАД?

Жывёлагадоўля Карэліцкага раёну дасягнула ўзроўню 1968 году. Толькі за апошні год вытворчасьць малака зьнізілася на 16,3 працэнта, мяса на 21,2 працэнта. У сярэднім па раёну ад адной каровы надоена 2636 кг малака, што на 310 кг меней, чым летась. У параўнаньні ж з 1990 годам паказчыкі па малаку зьменшыліся на 39 працэнтаў, а па мясу на 55.

За год пагалоўе буйной рагатай жывёлы скарацілася на 2366 галоў, у тым ліку кароў - на 967 галоў. Колькасьць сьвіней паменшылася на 20,8 працэнта.

**Зьміцер Сьвістуновіч.**

## САМЫ ДАРАГІ ХЛЕБ - У ІЎІ

Булка «Аўгустоўская» - чорнага хлеба івейскага хлебазаводу каштуе сёньня 2800 рублёў. Гэта, бадай, самая высокая цана на хлеб у Беларусі. Прычына? На хлебазавод паступіла дарагая мука. Да таго ж, 70-80 працэнтаў цаны складаюць падаткі. Калі б ня гэта, то нават без усялякіх датацый, шаноўныя івейцы, вы плацілі б ня больш як па 1500 рублёў за булку.

**Ігнат Хітровіч.**

## ЮБІЛЕЙНЫ АЎКЦЫЁН

**30 студзеня ў Гародні пройдзе 16-ты аўкцыён па продажу камунальнай маёмасьці. Для міжнароднай фінансавай карпарацыі ён стане юбілейным - пяцідзесятым па ліку.**




Праект «Малая прыватызацыя ў Беларусі», ажыцяўляецца пры фінансавай падтрымцы Агенцтва ЗША па міжнародным развіцьці, рэалізуе ў нашай краіне пад эгідай МФК два з невялікім гады.

Першы аўкцыён у Беларусі адбыўся ў Берасьці 29 верасьня 1993 году. Другім горадам, дзе аўкцыёны пачалі праводзіцца рэгулярна, стала Гродня. 24 сакавіка 1994 году была падпісана дамова аб супрацоўніцтве горада і МФК, а ў траўні адбыўся першы сумесна арганізаваны аўкцыён. За гэты час у абласным цэнтры ў прыватную маёмасьць перайшоў 81 аб'ект камунальнай гаспадаркі. Увогуле ж у Беларусі пад эгідай карпарацыі на аўкцыёнах у Берасьці, Горадні, Оршы, Менску, Смаргоні, Наваградку, Лідзе, Баранавічах прададзена 180 білетаў. Мясцовыя бюджэты атрымалі, дзякуючы гэтаму, больш 30 мільярдаў рублёў.

На юбілейны аўкцыён будуць запрошаныя пасол ЗША ў Беларусі Кенэт Ялавіц, прадстаўнікі Міністэрства дзяржмаёмасьці, улады горада і вобласьці. Удзельнікаў і наведвальнікаў аўкцыёну чакае шэраг прыемных сюрпрызаў.

**ВІТАЎТ РУДНІК.**

## ГОРАД МОЖА СПАЦЬ СПАКОЙНА?

### НОВЫ ГОД АБ'ЯДНАНЬНЕ «АЗОТ» СУСТРЭЛА ПАЖАРАМ.

**Сёлета спаўняецца 25 год, як на гарадзенскім ВА "Азот" пачалі дзейнічаць усе асноўныя вытворчасьці. У цяперашні час камбінат зьяўляецца «манетным дваром» горада і вобласьці, і менавіта ён дае галоўнае паступленьне валюты.**

**Разам з тым «Азот» - галоўны боль з прычыны ўзьдзеяньня на навакольнае асяроддзе і пагрозы аварый з непрадказальнымі вынікамі.**

Але на аб'яднаньні Вам скажуць другое!

- Я ўпэўнены, што нічога такога ня можа быць, - пераконвае палкоўнік Уладзімір Архіпаў, начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы «Азота». - Тут уважліва сочаць як за станам абсталяваньня, так і за работай персаналу. У нас кантроль і яшчэ раз кантроль!

Дастаткова ў любы вечар уключыць тэлевізар, і можна пераканацца, што ў сьвеце не прахodзіць і дня, каб дзе-небудзь ня выбухнула, не загарэлася, не абвалілася. А там і абсталяваньне, і персанал ня горшы за наш. І ўсё ж там і гарыць, і выбухае.

Так што, і мы можам прыняць рабочую гіпотэзу: і на «Азоце» можа здарыцца вялікая бяда. Якія сілы маюцца ў наяўнасьці, каб гэтую бяду ўтаймаваць?

Ёсьць, трэба прызнаць, вымуштраваны калектыў пажарнікаў. А на ўзбраеньні ў іх поўны дэфіцыт абсалютна на ўсё! Няма новых машын, няма прадпіваўгаз? (і гэта на хімічным прадпрыемстве!), няма вяровак, паясоў, сякер. Нават штаноў і ботаў!

Трэба сказаць, што процівапажарнае абсталяваньне, інструмант каштуюць вельмі дорага! Яны павышанай якасьці - у ніх людзям у агонь ісьці. Напрыклад, касьцюм пажарнага каштуе 4 тысячы долараў, вышынная драбіна - цэлы мільён! Зразумела, долараў.

Але ж, у «Азота» грошы ёсьць? Ёсьць. Але ёсьць і вялікая несправядлівасьць. «Азот» цалкам утрымлівае цэлую пажарную каманду, якая, дарэчы, няраз удзельнічала ў гашэньні пажараў ня толькі ў сябе, але на другіх аб'ектах горада і вобласьці. І тым ня менш, ніхто не вызваляў «Азот» ад уплаты пажарнага падатку. Аб'яднаньне плаціць, і нямала: 500 мільёнаў за мінулы год.

Таму, калі пажарныя пачынаюць аб чым-небудзь прасіць, у бухгалтэрыі аб'яднаньня злуюцца і гавораць: «Мы ж пералічылі вам столькі мільёнаў!» Не, ня ім, а ў бяздонны бюджэт, як у чорную дзіру...

Летась на «Азоце» было восем пажараў. Адзін ужо ў гэтым годзе! Ніхто не застрахаваны ад таго, што любы з гэтых «лакальных» пажараў не перарасьце ў вельмі вялікі.

-Калі на «Азоце» здарыцца самае горшае, туды, наогул, няма чаго будзе ехаць! - панура перасьцярог начальнік абласной ваенізаванай пажарнай службы А.ГУЗ.

Вось так. А супраць такой пагрозы пажарныя маюць, сапраўды, адзін надзейны сродак - лом. Усё астатняе, або зносілася, або састарэла, або зусім адсутнічае.

**Д.ПРАКОПЧЫК.**

# СУМЕЖЖА

## ЛЯТАЙЦЕ САМАЛЁТАМІ АЭРАФЛОТА!

**Банальна? Так. Але затое актуальна. Сёньня ў Горадні за дваццаць хвілін вы можаце аформіць сабе квіток ў Аўстралію, на Ямайку, у Афрыку. Прычым з істотнай скідкай. 23 студзеня ў Горадні адчыніўся філіял беларуска-кіпрскага сумеснага прадпрыемства «Эйрсэрвіс», якое зьяўляецца Генеральным агентам і прадстаўніком АТ «Аэрафлот -Расейскія міжнародныя авіялініі».**

«Эйрсэрвіс» працуе ў нашай краіне з верасьня мінулага году і ўжо набыло пэўны аўтарытэт. Адкрыцьцё першага свайго філіялу ў нашым горадзе - добрае таму сьведчаньне.

*- Хто зьяўляецца сёньня асноўным кліентам прадпрыемства?*

З гэтым пытаньнем карэспандэнт «Пагоні» зьвярнуўся да дырэктара філіялу Віктара Маркевіча.

- У асноўным гэта прадпрымальнікі і дзелавыя людзі, беларусы, якія выязджаюць на сталае жыхарства за мяжу і на заробкі. Найбольшым попытам сёньня карыстаюцца маршруты ў ЗША, краіны Заходняй Эўропы, Паўднёва-Усходняй Азіі, у Індыю, Паўднёвую Афрыку.

*- Але ж і без паслугаў «Эйсэрвіс» грамадзяне Беларусі маюць магчымасьць лятаць ва ўсе краіны сьвету...*

- Так. Толькі з нашай дапамогай рабіць гэта можна хутчэй, таньней і выгодней.



*Прададзены першы білет*

Акрамя «Аэрафлота», мы зьяўляемся яшчэ агентамі авіяпрадпрыемства «Пулкава» (Санкт-Пецярбург), авіякампаніі «Краснаярскія авіялініі», агентамі і прадстаўнікамі Галоўагенцтва грамадзянскай авіяцыі Расеі на тэрыторыі нашай дзяржавы, авіакампаніі «Lot» (Польша), «Lufthansa» (Германія) і г.д. Дзякуючы гэтаму, нашыя кліенты маюць скідкі пры набыцьці авіябілетаў. Афармленьне неабходных для падарожжа дакумантаў займае лічаныя хвіліны.

Білеты «Аэрафлота», аформленыя намі, гарантуюць палёт ў любы аэрапорт сьвету, прымаюцца 110-цю замежнымі авіякампаніямі. Акрамя таго, дзейнічае цэлая сістэма ільгот - па асобных накірунках кошт білета для грамадзяніна СНД можа каштаваць на 75 працэнтаў таньней. Пры неабходнасьці мы маем магчымасьць забраніраваць кліентам нумар у любым гатэлі сьвету.

Факт адкрыцьця ў нашым горадзе філіялу «Эйрсэрвіс» сьведчыць аб многім. І найперш пра тое, што аднаўляць і будаваць новыя эканамічныя ды іншыя сувязі можна і без лукашэнаўска-зюганаўскіх «інтэграцый».

Галоўнае, каб палітычныя балбатуны не перашкаджалі ўзаемавыгадным праектам. А ўстануць на ногі і выжывуць тыя, што будуць больш канкурэнтназдольныя і патрэбныя людзям.

**ВІКТАР ЛЮДВІКОВІЧ.**

## СЬМЕРЦЬ У ЧУЖОЙ КРАІНЕ ЗА ГАНЕБНЫЯ ІНТАРЭСЫ

Водгульле трагедыі ў далёкім дагестанскім Першамайскім дакацілася горам і да ціхай палескай вёскі Самойлавічы, што ў Бярозаўскім раёне.

Пазаўчора на заўсёды разьвітаўся з сябрам дзяцінства. Мой школьны таварыш Аляксандр Застаўны загінуў на расейска-чачэнскай вайне пад час ганебнай вайсковай аперацыі ў Першамайскім.

У 1983 годзе Саша быў прызваны ў савецкае войска і трапіў у роту ганаровай варты Маскоўскага крамля. Пасьля «тэрміноўкі» застаўся служыць у войсках сьпецыяльнага прызначэньня.

У хвіліны рэдкіх сустрэчаў ён распавядаў мне пра пачуцьцё недарэчнасьці на мяжы з агіднасьцю, якое авалодвала ім пад час маскоўскіх путчаў. На пытаньне, ці не пара яму вярнуцца на радзіму, зьдзіўлена пацiскаў плячыма. Колькі іх незапатрабаваных нашых вайскоўцаў-прафесіяналаў засталося ў Расеі пасьля развалу эсэсэраўскай імперыі. У той жа час Беларусь давала шчодры прытулак прыблудам-чужынцам, што пакідалі ўсходнюю Эўропу і Балтыю.

Саша не хацеў стварaць сям'і. Ён нібы адчуваў фатальную непазьбежнасьць сваёй гібелі, фактычна стаўшы закладнікам авантурнай імперскай палітыкі Расеі, што распачала вынішчэньне свабодалюбівага чачэнскага народу. Ягоная сьмерць - яшчэ адзін прыкры напамінак усім беларусам пра тое, што ў нашай краіне няма і не павінна быць інтарэсаў там, дзе чужая дзяржава імкнецца патапіць волю да незалежнасьці і разьвіцьця іншых у крыві.

Мой сябар пахаваны на роднай зямлі. І гэта адзінае, хаця і вельмі горкае суцяшэньне.

**АЛЕСЬ СУРАЎ.**

## ВЫВУЧАЙЦЕ ГІСТОРЫЮ СССР, ГЭТА КАРЫСНА!

**Нашым сучасным палітычным кіраўнікам трэба ўзяць падручнік гісторыі СССР, які, я спадзяюся, яны вывучалі ў свае маладыя гады і які яны прапануюць зноў вывучаць у школах, і зрабіць разумныя высновы, пагледзеўшы на эканамічную мапу Расейскай імперыі. Пры гэтым трэба памятаць дзьве аксіёмы:**
**1. Беларусь - адсталая эканамічная частка Расеі.**
**2. У Расеі да 1917 года была рынкавая эканоміка.**

У Расейскай Імперыі было ўсяго чатыры разьвітыя эканамічныя раёны:

1. Перцярбург - таму што быў выхад да мора, і, у дадатак, ён быў сталіцай, у якой заўсёды лепей пачынаць любую справу;

2. Поўдзень Расеі - выхад да мора, а таксама карысных выкапні;

3. Поўдзень Уралу - вялікае мноства карысных радовішчаў;

4. Масква з Цэнтрам Расеі - лёгкая прамысловасьць перапрабляла танную бавоўну з Сярэднеазіяцкіх калоніяў, вялікая колькасьць насельніцтва і добрае геаграфічнае становішча.

У той час, як і цяпер, Беларусь ня мела выхаду да мора, вялікай колькасьці насельніцтва, карысных выкапняў. Вось таму і была яна пры рынкавай эканоміцы ў Расейскай Імперыі адсталай ускраінай.

Толькі пры камуністах у Беларусі было пабудавана мноства заводаў ды фабрык. Гэта адбылося таму, што была адкінутая рынкавая эканоміка і дзяржава не лічыла грошай. Напрыклад, метал здабывалі на Урале. Трубы з яго рабілі ў Таганрозе. У Горадні з гэтых трубаў рабілі карданныя валы, якія зноў везьлі на Урал на аўтамабільныя заводы.

Цяпер у Расеі зноў рынкавая эканоміка. Грошы зноў пачалі лічыць. Для вялікай краіны ня мае сэнсу разьвіваць прамысловасьць на ўскраінах. Адсюль выснова: калі Беларусь далучыцца да Расеі, нават толькі эканамічна, што, дарэчы, зараз і адбываецца, уся беларуская прамысловасьць спыніцца. Кожны, нават трохі разумны чалавек ведае, што будаваць заводы трэба там, дзе яны дадуць прыбытак. У сувязі з тым, што межы ў нас з Расеяй «празрыстыя», будуць працаваць толькі расейскія заводы, таму што яны больш канкурэнтназдольныя з-за больш таннай у Расеі энергіі і сыравіны. А энергія і сыравіна будзе ў іх заўсёды больш танная, таму што радовішчы карысных выкапняў знаходзяцца да іх бліжэй і ня трэба вялікіх выдаткаў на іх транспартыроўку. Беларускія ж заводы канчаткова спыняцца і абанкруцяцца. Пачатак гэтага працэсу адбываецца ў наш час.

Нашы кіраўнікі не разумеюць, што нават Эўрапейскія краіны адчыняюць свае эканамічныя межы для суседзяў толькі ў тым выпадку, калі эканамічнае разьвіцьцё гэтых краін прыкладна на адным узроўні.

У беларускай прэсе зараз можна «навешаць сабак» на кіраўнікоў прадпрыемстваў за развал эканомікі. Кажуць, яны кепска кіруюць сваімі заводамі. Але што можа зрабіць дырэктар, калі палітычнае кіраўніцтва Беларусі робіць усё магчымае, каб задушыць сваю прамысловасьць.

Напрыклад, замест выгаднага для абедзьвюх краін свабоднага гандлю, яны заключылі з Расеяй мытны саюз. Межы адчынены ня толькі для Расеі, а і для ўсёй Сярэдняй Азіі, а гэта пяць краін. Хутка ўсе нашы фабрыкі і заводы спыняцца, акрамя тых, што перапрацоўваюць мясцовую сыравіну і тых, што працуюць на заходнія краіны.

Беларусь ізноў будзе адсталай ускраінай, як гэта было ў царскай Расеі. Але ж не расейцы будуць у гэтым вінаватыя, бо ўсё адбудзецца ў згодзе з эканамічнымі законамі. Гэтыя законы аднолькавыя пры рынкавай эканоміцы, што ў Расейскай Імперыі, што ў Расеі сучаснай.

**С.БУДНІК.**

## РАЗУМНЫ ЛІЧЫЦЬ ГРОШЫ Ў СВАЁЙ КІШЭНІ

22 студзеня ў Кіеве пачаліся расейска-украінскія перамовы, на якіх павінны быць узгоднены тарыфы на транзіт сыравіны нафтаправодам "Дружба" на тэрыторыі Украіны, з пачатку года ўзьняла тарыф на транзіт праз сваю тэрыторыю расейскай нафты і газу ў краіны Эўропы з 4,53 да 5,2 долара. У сувязі з гэтым на некаторы час былі спынены расейскія пастаўкі ў Венгрыю, Чэхію і Славакію.

## КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА РЫЗЫКУ

У Расеі прыняты новы закон «Аб радыяцыйнай бясьпецы насельніцтва». Ён прадугледжвае кампенсацыю за рызыку для пражываючых паблізу радыяцыйна-небясьпечных прадпрыемстваў і тэрыторый, на якіх існуе патэнцыяльная магчымасьць перавышэньня устаноўленых дозавых межаў, прыведзеных ў адпаведнасьць з міжнародна прынятымі нормамі. Да гэтага дапушчальныя радыяцыйныя дозы перавышалі міжнародныя стандарты ў пяць разоў. Кампенсацыя ў выглядзе паляпшэньня сацыяльна-бытавых умоваў, будаўніцтва аздараўленчых і лячэбных установаў будзе рабіцца за кошт сродкаў радыёактыўна-небясьпечных прадпрыемстваў.

**"Э.-Х."**

## ДЛЯ СЯБРОЎСТВА НЯМА МЕЖАЎ

Паміж Воранаўскім раёнам Беларусі і Салечніцкім раёнам Летувы падпісана пагадненьне аб культурным супрацоўніцтве. З нагоды падпісаньня пагадненьня Воранава наведалі загадчыца аддзела культуры Салечніцкага раёну З.Гразнова і загадчак Беларускага культурнага цэнтру ў Салечніках П.Малафей, а таксама ансамбль песьні і танца «Сальчане».

Майстэрства «Сальчан» выклікала непадробнае захапленьне воранаўцаў.

## СКАШТУЕМ ЦЁМНАГА ПІВА?

Акцыянернае таварыства «Лідскі піўзавод» закончыла падрыхтоўку да выпуску цёмнага піва. Зараз затрымка толькі за цёмным соладам, які павінен паступіць з Чэхіі.

Першыя партыі цёмнага піва плануецца выпусьціць у бліжэйшы час.

**ЗЬМІЦЕР СЬВІСТУНОВІЧ.**



## ДА ГАДАВІНЫ РАСЕЙСКА-ЧАЧЭНСКАЙ ВАЙНЫ

### ЗВАРОТ СОЙМУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Споўніўся год з таго змрочнага дня, калі расейскія войскі ступілі на зямлю Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя. Праліваецца кроў, гінуць тысячы і дзесяткі тысяч людзей - і ўсё гэта дзеля таго, каб Расея спатоліла свае імперскія амбіцыі. Але гіганцкая ваенная машына ня ў стане зламіць волю нешматлікага гераічнага народу да свабоды і незалежнасьці.

У сувязі з апошнімі падзеямі ў Кізьляры мы заяўляем наступнае. Мы асуджаем тэрарызм, лічым, што сьвятая мэта не апраўдвае любых сродкаў. Але тое, што сёньня адбываецца ў гэтай вольналюбівай краіне, інакш, як дзяржаўным тэрарызмам і генацыдам супраць чачэнскага народу назваць нельга.

Беларускі народ спазнаў са свайго горкага досьведу, што такое імперскі генацыд. Беларусы прайшлі праз вынішчэньне кожнага другога ў войнах з Масквой 17 стагодздзя, якія ўрэшце прывялі да ўключэньня нашай краіны ў склад Расейскай імперыі, праз бальшавіцка-сталінскі і фашысцкі генацыд. Таму мы добра разумеем пакуты народу Ічкерыі.

Дзеяньні расейскай ваеншчыны - гэта злачынства супраць чалавецтва, якое адбываецца пры бязьдзеяньні сусьветнага грамадзтва. Сьвет не павінен маўчаць. Жыцьцё чалавека і свабода, незалежнасьць народу дадзеныя Богам. Замах Расейскага мілітарызму на самое існаваньне чачэнскага народу сьведчыць, што імперская палітыка непазьбежна спараджае масавыя парушэньні фундамантальных правоў чалавека і народу.

На самым пачатку расейска-чачэнскай вайны Народны Фронт асудзіў ганебнае пабоішча. Гэтая вайна выразна паказала беларусам, якім неацэнным здабыткам для нас стала аднойленая ў 1991 годзе незалежнасьць. Дзякуючы незалежнасьці, Беларусь не была ўцягнута ў крывавыя імперскія канфлікты, якія безупынна ўзьнікаюць за ўсходняй мяжой нашае краіны.

Але сучасныя кіраўнікі Беларусі, наадварот, імкнуцца зацягнуць нас у вайсковы саюз з Расеяй. Народны Фронт катэгарычна выступае за захаваньне абвешчанага Канстытуцыяй нейтралітэту краіны. Толькі незалежнасьць, толькі рэальны нейтралітэт можа засьцерагчы нас ад новых трагедыяў.

**13 студзеня 1996 г.**
**г.Менск**

# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# ДАПАМОЖАМ БРАТНЯЙ РАСЕІ!

## АЛЬБО ЧАМУ МАГЧЫМА ВЯЛІКАЯ РУСКА-КІТАЙСКАЯ ВАЙНА Ў ПАЧАТКУ XXI-ГА СТАГОДДЗЯ?

Кожнаму прафесійнаму біёлагу (шкада, што ня ўсім прафесійным гісторыкам і палітыкам) вядомы паралелізм і канвергенцыя, як заканамернасьці эвалюцыі біялагічных сістэмаў. Гэтыя заканамернасьці прыводзяць да аналагічных формаў і функцый у розных па паходжаньні біясістэмах пры ўзьдзеяньні на іх пэўных зьнешніх фактараў. Але, нават не зьвяртаючы ўвагі на біялагічныя заканамернасьці разьвіцьця чалавечага грамадзтва, дасьледчаны аналітыкі павінны заўважыць наступнае:

- Буйныя войны паміж вялікімі папуляцыямі (краінамі) Чалавека разумнага (?!) пачынаюцца толькі пасьля малых альбо дробных войнаў у гэтых ці з гэтымі папуляцыямі.

- Інстынкт самазахаваньня (розум, Бог?!) не дапускае маштабнага прымяненьня сродкаў усеагульнага зьнішчэньня: хімічнай,ядзернай і біялагічнай зброі.

- Вялікія войны пачынаюць папуляцыі (краіны) з гіпербалічным пачуцьцём нацыянальнага (фашызм, нацызм, шавінізм) у форме месіянства.

Абапіраючыся на гэтыя высновы, давайце зробім кароткі успамін Эўрапейскай гісторыі XX-га стагоддзя, якая датычыла нас, беларусаў.

Пасьля буйнамаштабнай Першай сусьветнай вайны і Расейскай грамадзянскай у Эўропе ўтварыліся дзьве грамадзка-палітычныя сістэмы (буржуазныя і сацыялістычныя) і тры(!) тэрытарыяльна-эканамічныя (краіны Антанты,якія перамаглі ў вайне, Германія з саюзьнікамі, якая прайграла, і Савецкі Саюз, які і прайграў і выйграў).

Германія на працягу 20-х і пачатку 30-х выплочвала кантрыбуцыі Антанце, эканамічны стан яе быў вельмі залежны ад зьнешніх краінаў (акрамя СССР). У Германіі на фоне моцных камуністычных традыцыяў пралетарыяту інтэнсіўна разьвіваўся нацыянал-сацыялізм альбо нацызм.Перад прыходам нацыстаў да дыктатарскай улады самымі буйнымі партыямі былі камуністычная (КПГ) і нацыянал-сацыялістычная рабочая на чале з А.Гітлерам (НСДАП).

Камуністы і нацысты падтрымлівалі і прапагандавалі сярод насельніцтва ідэі «яднаньня нямецкіх народаў» і «шкоднасьці Вярсальскага дагавору, які падзяліў Германію».

Савецкі Саюз у гэты час паводле магчамасьцяў палітычна і эканамічна супрацоўнічаў з Германіяй, падтрымліваючы камуністаў і абзываючы «фашыстамі» нямецкіх сацыял-дэмакратаў, а не нацыстаў!

А буржуазныя краіны пераможцы?! Яны эгаістычна лічылі (і сучасная гісторыя паказала правільнасьць іх разьлікаў), што нямецкі фашызм для іх меншае зло, чым нямецкі і савецкі камунізм разам узятыя. Англія, Францыя і ЗША спакойна «дапусьцілі»Гітлера да ўлады, не зважаючы на генацыд жыдоўскага народу, спакойна назіралі за «узьяднаньнем нямецкага народу» - Саарскай вобласьці, Аўстрыі і Чэхіі. І толькі пасьля дагавору «Молатаў-Рыбентроп», захопу Германіяй і Савецкім Саюзам Польшы, буржуазныя дэмакратычныя краіны аб'явілі і пачалі вайну з Германіяй. Буржуазныя краіны зрабілі ўсё палітычна магчымае, каб «нацкаваць нацыстаў» на сацыялістычны Савецкі Саюз. У выніку СССР адразу (з чэрвеня 1941 году) пачаў аплачваць золатам тэхнічную ваенную дапамогу ЗША і Англіі ( знакаміты «лендліз»). Наступствы Другой сусьветнай вайны вядомы: разгром і падзел Германіі на фоне ўмацаваньня эканомікі ЗША, а затым і эканамічны росквіт краінаў Заходняй Эўропы, пашырэньне тэрытарыяльнай сістэмы сацыялізму (Кітай і Усходняя Эўропа). Агульнай палітычнай працай пераможцаў стварэецца Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў (ААН) і дзяржава Ізраіль.

Але раптам Савецкі Саюз у асобе Іосіфа Сталіна адмовіўся сплочваць пазыкі па «ленд-лізу», гэта значыць сацыялістычная сістэма «вырвалася» з эканамічнага падпарадкаваньня Захаду. Пачалася «халодная сусьветная вайна», якая ледзь-ледзь не перайшла ў ядзерную вайну паміж ЗША і СССР (Карыбскі крызіс). Буржуазная сытая Амерыка не зрабіла апошні крок у атамную бездань - спрацаваў «інстынкт самазахаваньня». Халодная вайна паміж сацыялістычнай і буржуазнай сістэмамі перайшла ў «хранічную» фазу. Эканамічна моцныя і перспектыўныя краіны «выйгралі па ачках» - спачатку «адхілілі ад вялікай ігры» сацыялістычны Кітай (савецка-кітайскі інцыдэнт), потым завяршылі сваю перамогу «перабудовай» і распадам СССР, самаліквідацыяй сацыялістачных краінаў Усходняй Эўропы.

Сучасная Расея актыўна ўключаецца ў сістэму буржуазных каштоўнасьцяў Захаду.

На сёньняшні дзень у Эўразіі зноў дзьве грамадзка-палітычныя сістэмы: буржуазная(Эўропа) і сацыялістычная (палова Азіі), а таксама тры(!) тэрытарыяльна-эканамічныя (краіны Эўропы, якія выйгралі халодную вайну, Расея з краінамі СНД, якая прайграла, і сацыялістычны Кітай, які і прайграў і выйграў).

Расея вельмі падобная да Германіі 1920-х: уся ў пазыках Заходняй Эўропе і ЗША, з нізкім узроўнем жыцьця адносна Эўропы. У краіне на тле моцных камуністычных традыцыяў пралетарыяту інтэнсіўна разьвіваецца рускі шавінізм у вобразе ідэалогіі ЛДПР (лідар У.Жырыноўскі).Ліберальна-дэмакратычная партыя разам з камуністычнай партыяй Расеі (КПР) маюць большасьць у Думе. І камуністы і рускія шавіністы прапагандуюць сярод насельніцтва ідэі аб «шкоднасьці распаду СССР» (падзел рускай нацыі) і «узьяднаньня рускіх народаў».

Сацыялістычны Кітай у гэты час па меры магчымасьцяў палітычна і эканамічна супрацоўнічае з Расеяй і краінамі СНД, падтрымліваючы камуністаў.

А буржуазныя краіны-пераможцы?! Яны зноў эгаістычна лічаць, што рускі шавінізм для іх меншае зло, чым рускі і кітайскі камунізм разам узятыя. І ЗША і Эўрапейскі Саюз могуць спакойна назіраць, як шавіністы ў Расеі прыйдуць да абсалютнай улады і як пачнецца «узьяднаньне рускіх народаў»: далучэньне да Расеі Беларусі, Казахстану, нават Украіны. Калі ж Украіна пасьлее стаць членам НАТО, то магчыма невялікая вайна.

Падабенства сёньняшняй сітуацыі з той, якая была ў Эўропе 60 гадоў таму, дазваляе выказаць гіпотэзу аб тым, што вялікая вайна можа пачацца ў пачатку XXI-га стагоддзя. Згодна гэтай гіпотэзе гэта будзе вайна паміж нацысцкай(шавіністычнай) Расеяй і сацыялістычным Кітаем. І адбудзецца яна з маўклівай згоды і тайнага адабрэньня буржуазных суперкраінаў.

Сцэнар вайны і яе наступствы могуць быць падобныя на Другую сусьветную: дзесяткі мільёнаў ахвяраў у Расеі і Кітаі, падзел Расеі і эканамічнае асляблевьне Кітаю.

Мне запярэчаць - гэта абсалютна нерэальна, таму што адбудзецца сусьветная самазабойчая ядзерная вайна. "Да жудасьці прыкра , але шырокамаштабнай ядзернай вайны ня будзе. Дарэчы, як не было і ня будзе шырокамаштабнай хімічнай. Успомніце - у Першую сусьветную хімічную зброю прымянілі масава і жахнуліся, а ў Другую сусьветную нават Гітлер не адважыўся яе выкарыстаць. У другую сусьветную ядзерную зброю выкарысталі, а ў наступную ніхто не адважыцца. Спрацуе біялагічны «інстынкт самазахаваньня» у кіраўнічай эліты (нават у Жырыноўскага і «жырыноўчыкаў»). Выкарыстаюць нейкую іншую, пакуль сакрэтную, зброю.

Ці ёсьць альтэрнатыва выхаду з існуючай сітуацыі без вайны між Расіяй і Кітаем? Канешне, ёсьць, але малаверагодная. Шанцы пазьбегнуць блізкай вялікай вайны павялічваюцца пры двух розных варыянтах: 1) Расея зноў стане камуністычнай і пройдзе праз грамадзянскую вайну;

2) Расея стане дэмакратычнай буржуазнай краінай, без «узьяднаньня рускага народу» і зьліквідуе ідэалогію шавінізму.

Мне асабіста хочацца ўбачыць братнюю Расею дэмакратычнай буржуазнай краінай, якая жыве без унутраных і зьнешніх ваенных канфліктаў. Я не жадаю пасылаць свайго сына ні на малую «каўказкую», ні на вялікую «кітайскую» войны.

Зьвяртаюся да ўсіх разумных людзей Беларусі незалежна ад нацыянальнасьці - давайце дапаможам братняй Расеі пераадолець «вірус рускага шавінізму» і «сіндром Жырыноўскага»! Памятайце - кожны, хто прапаведуе «аб'яднаньне рускіх народаў» падштурхоўвае рух падзей у напрамку вялікай руска-кітайскай вайны.

**ВАЛЯНЦІН ЛУЧКО**
**Дацэнт Гарадзенскага універсітэту.**

**P.S.** Магчыма, гісторыкі-прафесіяналы змогуць удакладніць і асрэчыць зроблены вышэй прагноз будучых падзей. Верагодна, нехта з прафесіяналаў ужо апублікаваў падобныя выкладкі ў сьпецыяльных выданьнях - я не прэтэндую на арыгінальнасьць.

Шчыра запрашаю ўсіх да дыскусіі на тэму: "Перспектывы крайняга нацыяналізму ў Расеі і магчымыя наступствы ў сувязі з гэтым для Беларусі."

# КНІГА ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЦЭНТРАЛЬНУЮ РАДУ

**Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух часоў Другой сусьветнай вайны яшчэ мала вывучаны, і таму кожная новая публікацыя па гэтай тэме, а тым больш кніга, выклікае вялікую цікавасьць ня толькі звычайных чытачоў, але і гісторыкаў. Да нядаўняга часу на Бацькаўшчыне было выдадзена тры кнігі, у якіх асьвятлялася гісторыя беларускіх нацыянальных арганізацый і партый пад час апошняй вайны. Першаю была сумнавядомая кніга Васіля Раманоўскага «Саўдзельнікі ў злачынствах» (Менск, 1964). Другою сталася праца Юры Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» (Менск, 1993). Трэцяю - «Беларусь учора і сёньня» Язэпа Найдзюка і Івана Касяка (Менск, 1993). І вось зьявілася чацьвёртая - «Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах» Аляксея Салаўёва (выдадзена мескім выдавецтвам «Навука і тэхніка» у г.г.).**

Хацелася б сказаць колькі слоў пра аўтара, але ў кнізе няма ніякай інфармацыі пра А.К.Салаўёва. Пэўна толькі, што ён не прафесійны гісторык, а, хутчэй за ўсё, ветэран ворганаў дзяржбясьпекі. У 1994 г. у Менску выйшла яговая кніга «Они действовали под разными псевдонимами», у якой А.Салаўёў распавядае пра дзесяткі груп і атрадаў дзяржбясьпекі, што дзейнічалі пад час нямецкай акупацыі ў беларускіх лясах, і якіх раней нам падавалі як «белорусских партизанов». Кніга патрэбная, асабліва сёньня, калі перагледаецца дзейнасьць савецкага партызанскага руху на Беларусі. А.Салаўёў несьвядома падтрымоўвае «нацыяналістычных» гісторыкаў, калі цьвердзіць, што менавіта чакісты арганізоўвалі савецкі партызанскі рух ды накіроўвалі яго дзейнасьць. І вось зьявілася другая кніга Салаўёва.

Пабудавана кніга з уводзінаў, пяці главаў («Создание БЦР», «Формирование БКО», «2-й Всебелорусский конгресс», «БЦР В Берлине» и «Крах БЦР»), заключэньня, «от автора» і зборніка дакумантаў. Асноўныя архіўныя дакументы, на якія спасылаецца А.Салаўёў, гэта паказаньні нашых беларускіх нацыянальных дзеячаў пад сьледствам дзяржбясьпекі. Тут прыводзяцца ўрыўкі з паказаньняў Антона Сокал-Кутылоўскага, Ларысы Геніюш, Васіля Русака, Усевалада Родзькі, Івана Гелды, Аляксандра Калошы, удзельнікаў дэсанту ген.Вітушкі, Васіля Конюха і Веры Краскоўскай-Давідчык ды інш.

Пішучы пра паказаньні маёра БКА, кіраўніка Беларускай Незалежніцкай Партыі (Беларускай Вайсковай Арганізацыі) Усевалада Родзькі, Салаўёў адзначае, што «кризис его взглядов на происходившие события позволил ему политически разоружиться и рассказать правду о провакационной сущности возглавляемой им партии». Але мы ведаем, як каты з дзяржбясьпекі дапамагалі «разоружиться и рассказать правду». Родзька каля году знаходзіўся ў катоўнях менскай дзяржбясьпекі, дзе з гэтага маладога хлопца выбівалі патрэбныя паказаньні... Кажуць,што сам Цанава прыходзіў паглядзець на «беларускага Бандэру», які ў 22 гады ачоліў беларускі вызвольны рух.

Аляксей Салаўёў неасьцярожна ўспрымае на веру паказаньні вязьняў бальшавіцкіх турмаў, ставіцца да іх некрытычна. Бо нават праф.Аляксандр Хацкевіч, ведамы сваімі «разоблачениями» беларускіх нацыяналістаў, пісаў наступнае: «Другим «источником» являются протоколы допросов предателей Родины... Протоколы эти также очень противоречивы и не внушают доверия» (Нёман, 1992, N 4, б.130).

Акрамя таго, Салаўёў дапускае шэраг памылак у імёнах і прозьвішчах беларускіх дзеячаў. Напрыклад, Уладзіслава Казлоўскага ён называе Вацлавам, Язэпа Малецкага - Іванам, Хведара Ільляшэвіча - «Фёдором Ильяшкевичем». А прозвішча кіраўніка беларускіх баптыстаў Дзекуць-Малея, па Салаўёву,- «Малей Дзикун»...

Дрэнна арыентуецца аўтар у гісторыі беларускай эміграцыі. Ён піша,што «в 1952 г. Р.К.Островский... организовал выпуск газеты «Незалежная Беларусь», положив начало послевоенному этапу антисоветской работы в среде белорусской диаспоры за границей». Але шырока ведамы факт, што яшчэ некалькі гадоў да гэтага была аднойленая Астроўскім БЦРада, а да яе ўжо існавала Рада БНР. Што да газеты, дык гэта далёка ня першае беларускае выданьне ў пасьляваеннай Эўропе (першая газета выйшла ў Парыжы 25 сьнежня 1945 году - «Беларускія Навіны») і яна не адыграла гэткай ролі, як было з «Бацькаўшчынай» або з «Беларускім Словам».

Нельга не адзначыць, што нягледзячы на стаўленьне аўтара да беларускіх нацыяналістаў, як да «пособников оккупантов» і «коллаборационистов», у кнізе ёсьць ужо новыя ацэнкі дзейнасьці, хаця б той жа БКА. А.Салаўёў адзначае пасьпяховую мабілізацыю ў краёвую абарону, якую на Навагрудчыне праводзіў Барыс Рагуля. Ён піша: «В целом мобилизационные мероприятия БЦР по формированию батальонов БКО дали неплохие результаты».

Даволі падрабязна разглядаецца падрыхтоўка і ход 2-га Ўсебеларускага кангрэсу ў Менску 27 чэрвеня 1944 г. Сярод 18 дакумантаў, якія ўвайшлі ў дадатак, ёсьць і пратакол кангрэсу, запісаны Лявонам Галяком. У гэтым жа дадатку знаходзяцца біяграфічныя дадзеныя на 81 удзельніка кангрэсу, а сярод іх такіх ведамых людзей, як Мікола Абрамчык, Радаслаў Астроўскі, Міхаіл Вітушка, Ларыса Геніюш, Кастусь Эзавітаў, Францішак Кушаль, Барыс Рагуля, Усевалад Родзька, Антон Сокал-Кутылоўскі. Але не падаецца інфармацыя пра тое, што і маёр Родзька, і маёр Гелда, і генерал Эзавітаў, і Мікола Шкялёнак, і праф.Платон Жарскі былі павешаныя па прысуду «справядлівага савецкага суда»... Няма тут зьвестак пра тэрміны зьняволеньня, якія адбылі ў лагерах і турмах Іван і Ларыса Геніюшы, А.Анішчык, Сокал-Кутылоўскі, Лявон Шпакоўскі і іншыя удзельнікі кангрэсу. Канешне, аўтар ня хоча пісаць пра гэта. Яговыя героі - гэта чакісты, якія арыштоўвалі, дапытвалі і расстрэльвалі нацыянальна-сьведамую беларускую інтэлігенцыю. У кнізе ёсьць успаміны чакіста, які падрабязна апісвае, як ён увайшоў у давер да генерала Эзавітава, а пасьля здаў яго савецкай контрразьведцы. Чым не герой!...

Як бы там ні было, а кніга А.Салаўёва - гэта значная падзея для беларускай навукі. А яшчэ - гэта напамін пра тысячы беларускіх патрыётаў, якія паклалі свае галовы у змаганьні за незалежную Беларускую Дзяржаву. «Памятайце нашы магілы!» - зьвярталіся сябры БНП-БВА, якія вялі няроўнае партызанскае змаганьне з расейскімі акупантамі, да сваіх нашчадкаў. Яны зьвярталіся да нас.

**ЯН ВЕЖАН**

